„NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr

# Ніва

№ 6 (102) БЕЛАСТОК, 9 ЛЮТАГА 1958 г. ГОД III

# З думкамі аб лепшай будучыні


*70-гадовы Пятро Верамеюк з Аўгустова, аддае свой голас на кандыдатаў Фронта адзінства народа.*

Выбарчая кампанія ўжо па-за намі. Аднак дзень 2 лютага, дзень выбараў у народовыя рады надоўга застанецца ў памяці кожнага жыхара нашай краіны.

Па рознаму сустрэлі гэты дзень гарады і вёскі нашай краіны. У адных мясцовасцях будынкі, дзе адбываліся выбары, былі ўпрыгожаны чырвонымі і бела-чырвонымі сцягамі, лозунгамі, у іншых, выбарчыя памяшканні ўдэкаравана зеленню і кветкамі. Усюды з самай раніцы гэтага дня, назіраўся нейкі ўрачысты, прыўзняты, святочны настрой.

У гэты дзень настрой выбаршчыкаў найлепш характарызавала атмасфера спакою і сур'ёзнасці, вялікай клапатлівасці за будучыню, калі яны масава ішлі да выбарчых урнаў, каб аддаць свой голас на кандыдатаў Фронта адзінства народа.

Масава, зрэшты, як і заўсёды, калі толькі зойдзе патрэба выказаць любоў і давер народнай уладзе, ішлі на выбары беларусы — жыхары народнай Польшчы.

Найлепш гэта назіралася на Беласточчыне, дзе пражывае аснаўная маса беларусаў. Сапраўднае пачуццё патрыятычнага абавязку беларусаў, у дзень выбараў хіба найлепш выказала насельніцтва Гайнаўскага павета (амаль у 100 прац. беларускае). Тут амаль усе выбаршчыкі, упоўнаважаныя да галасавання, прымалі ўдзел у выбарах. Дарогі Гайнаўскага павета ў гэты дзень, з самай раніцы запоўніліся гаманлівым натоўпам людзей. Гэта сяляне Гайнаўшчыны масава рушылі да выбарчых урнаў.

Сяляне многіх вёсак, між іншым Слабодкі, ехалі на выбары з песнямі і музыкай. Таму, ужо ў 11 гадзін дня ў выбарчай акрузе Лука, галасавала 100 прац. выбаршчыкаў, Семяноўка — 98 прац., Стары Корнін — 97 прац., Нараўка — 92 прац., а да 3 гадзіны пасля абеда ва ўсім павеце адгаласавала ўжо 82 прац. выбаршчыкаў.

Мабыць найлепш выказаў думку ўсіх беларусаў селянін з Паддольнага ля Гайнаўкі, які аддаючы свой голас сказаў:

— Я галасую за свабоду, за тое, каб мае дзеці не цярпелі таго ўсяго, што я пацярпеў у міжваенным перыядзе, за часоў санацыйнай Польшчы.

Назіраючы людзей падчас выбараў, можна было адчуць, што менавіта з такімі пачуццямі ішлі яны да выбарчых урнаў.

У Бельскім павеце таксама яшчэ перад 6 гадзінай раніцы, выбаршчыкі масава рушылі да выбарчых урнаў. Толькі, што праспявалі першыя пеўні, а ўжо у Плёскі, дзе знаходзілася акруговая выбарчая камісія, рушыў гаманлівы карагод 20 саней, на якіх ехалі сяляне Дэніскаў, каб выканаць патрыятычны абавязак — аддаць свае галасы на кандыдатаў Фронта адзінства народа. Як першы ў гэтай акрузе галасаваў Павал Гулько — 80-гадовы дзядуля з Дэніскаў.

Ужо каля 12 гадзіны ў гэтай акрузе галасавала амаль 80 прац. выбаршчыкаў.

Несумненна, да масавага ўдзелу ў выбарах гэтай акругі прычыніўся між іншымі і гурток БГ-КТ у Плёсках. Члены гуртка пад кіраўніцтвам Вольгі Пракапчук — загадчыцы грамадскай бібліятэкі, падрыхтавалі 2 п'есы: «Пярэстая Красуля» і «Боты», і некалькі дзён перад выбарамі выступілі з імі ў Плёсках і Кожыне. Жыхары Плёскаў і Кожына з захапленнем глядзелі на сваіх артыстаў. А кіраўнічка бібліятэкі, карыстаючыся момантам, падчас перапынку яшчэ раз расказала сялянам аб значэнні выбараў у рады народовыя.

Памяшканне выбарчай акругі ў вёсцы Аўгустова, удэкаравана тыпова беларускімі народнымі ўзорамі. На стале саматканыя, прыгожыя дываны, на сценах розныя каляровыя кветкі. Дэкарацыя памяшкання — гэта заслуга старшыні выбарчай камісіі ў Аўгустове Еўфрасініі Вышкоўскай — вядомай грамадскай дзеячкі.

Ужо ў 12 гадзін каля 60 прац. выбаршчыкаў у Бельскім павеце аддало свае галасы, а ў некаторых акругах, напрыклад, у Рыбалах галасавала амаль 90 прац. выбаршчыкаў. Жыхары Рыбалаў у гэты дзень мелі прыемны сюрпрыз. Да іх прыехалі аператары Польскай фільмовай хронікі, каб «накруціць» фрагменты выбараў у беларускай вёсцы. Ды і наогул, насельніцтва Беласточчыны масава ўдзельнічала ў выбарах. Найлепш аб гэтым сведчыць факт, што 91,1 прац. упоўнаважаных да галасавання — галасавала.

Масавы ўдзел у выбарах у народовыя рады — гэта найлепшы доказ палітычнага розуму і вялікага патрыятызму грамадства нашай краіны.

(вб)

## У Вільні знойдзена першы нумар «Нашай долі»

Як паведаміла мінскае радыё, у архівах Вільні знойдзена першы нумар «Нашай долі» — першай легальнай беларускай газеты.

Знаходка гэта вельмі цэнная, таму што ўвогуле дайшлі да нас лічаныя экземпляры «Нашай долі».

*Выбаршчыкі перад памяшканнем выбарчай камісіі ў Рыбалах*


*Аператар Польскай фільмовай хронікі Януш Кузнярскі «накручвае» фільм з выбараў у Рыбалах.*


*Хрысціна Маліноўская з Аўгустова, прымае выбарчы лісток ад члена выбарчай камісіі.*
*Фото — Ю. Лясоцкі.*

# Беларускім паэтам і пісьменнікам у Польшчы патрэбна свая арганізацыя

Як сталы чытач «Нівы», я асабліва цікаўлюся пытаннямі літаратуры і мастацтва. «Ніва» часта змяшчае на сваіх старонках творы нашых паэтаў і празаікаў. Часта сустракаюцца артыкулы, якія абмяркоўваюць творчасць выдатных беларускіх паэтаў прошлага і сучаснасці. Зразумела, што такія артыкулы вельмі патрэбны. Аднак, яшчэ ні разу не прышлося прачытаць у «Ніве» артыкул, які-б абмяркоўваў творчасць нашых паэтаў, якія друкуюцца ў «Ніве».

Ясна, што цяжка выказваць якія-небудзь крытычныя заўвагі аб асобным творцы, калі, за невялікімі выключэннямі ведаеш яго адзін ці два вершы, адно апавяданне, ці частку аповесці.

Дык вось тут і ўзнікае галоўнае пытанне, якое хацелася-б паставіць на абмеркаванне чытачам «Нівы» і асабліва творцам жывога слова ці патрэбна *беларускім паэтам і пісьменнікам, у Польшчы свая арганізацыя?*

На мой погляд, такая арганізацыя неабходна. Ці яна будзе падобна да «Саюза пісьменнікаў», ці, магчыма, спачатку да «Кола Млодых» — гэта справа падлягае шырэйшаму абмеркаванню.

Важна тое, што яна павінна дапамагчы нашым паэтам і пісьменнікам падняцца на вышэйшую творчую ступень. Толькі асоб, якія займаюцца паэзіяй беспасрэдна, якія маюць «цывільную адвагу» паказацца на старонках «Нівы», налічваецца больш 30-ці, ёсць-жа многа і такіх паэтаў, якія яшчэ не выявілі свайго таленту, бо не паспелі пераканацца ў сваіх здольнасцях. Аб гэтым пераканаўча гаворыць, напрыклад творчы лёс Віктара Шведа. Год назад, папаўшы ў калектыў, які адмаўляў яго здольнасці, паэт пачаў сумнявацца ў сваіх магчымасцях і, толькі дзякуючы сябрам з Таварыства, не згубіў свайго таленту. Ужо на працягу аднаго года Швед здабыў немалую папулярнасць. І сёння чытачы «Нівы» могуць сказаць, што паэзія яго патрэбна народу.

Гэты факт гаворыць, што і Таварыства можа зрабіць, але яно не можа замяніць такога калектыву, які-б мог памагчы маладым аўтарам прафесіянальна. Таму нам патрэбна яшчэ іншая арганізацыя, і такую арганізацыю мы павінны стварыць. Кожная праца, якая ідзе на карысць грамадскасці, павінна быць заўсёды ацэнена. Па-першае, павінна быць дадзена канкрэтная ацэнка з пункту гледжання карысці данай працы, для чалавека, па - другое, гэта праца павінна быць разгледжана з прафесіянальнага боку, з боку мастацкасці і майстэрства. Пазбавіць творцы такой ацэнкі нельга. Яна натхняе яго на далейшыя творчыя пошукі, у гэтай ацэнцы ён чэрпае новыя сілы. Адсутнасць крытычнай ацэнкі тармазіць развіццё творцы, як мастака.

Хто-ж дасць маладому паэту прафесіянальную ацэнку? Яе павінна даць яго арганізацыя. Дадуць такую ацэнку творчыя вечары, якія трэба арганізоўваць. Такія вечары, перш за ўсё, зблізяць паэтаў з беларускім насельніцтвам, дыскусіі на тых вечарах будуць актывізаваць нашых маладых аўтараў. Варта ўзяць прыклад з маладых польскіх паэтаў. Нядаўна адбыўся I фестываль Маладой Польскай Паэзіі ў Познані, дзе маладыя паэты абмеркавалі шэраг хвалюючых іх праблем. Паэтам былі ўручаны ўзнагароды. Адбылося шэраг спатканняў з насельніцтвам. Маладыя паэты пераканаліся ў сваёй карысці. Знайшлі сваё месца сярод народных мас.

Сёння, калі наш урад і партыя ўдзяляюць столькі ўвагі пытанням нацыянальных меншасцей у Польшчы, мы павінны максімальна выкарыстаць правы і магчымасці, дадзены нам, каб далей развіваць беларускае слова і думку.

Я. С.

З жыцця БГ-КТ

## У Крынках і Тапалянах

26 студзеня г. г. мастацкія драмгурткі БГ-КТ у Гарадку і Новай Волі (Беластоцкі павет) далі пяць пастановак. У мясцовым клубе (кіно) у асадзе Крынкі (Сакольскі павет) гарадоцкі драмгурток паставіў тры аднаактовыя беларускія п'есы «Валодзін гальштук» К. Крапівы, «Боты» М. Крапіўніцкага і «Праветрылі» Ул. Няфёда.

А ў вёсцы Тапаляны ў памяшканні мясцовай школы Нова-Вольскі драмгурток даў дзве пастаноўкі: першую для школьнікаў, а другую для ўзрослых.

У праграме было дзве беларускія п'есы «Мікітаў лапаць» М. Кудзелькі, «Міхалка» — Далецкіх, і песні ў выканані салістак Марысі Бойка і сёстраў Марысі і Галі Баўтручук.

Бурнымі, доўга не змаўкаючымі воплескамі прысутныя ўзнагародзілі маладых таленавітых артыстаў з Гарадка і Новай Волі.

## У Семятыцкім павеце будзе ўдосталь цэглы і кафляў

У мінулым годзе на Беласточчыне, зрэшты як і ва ўсёй краіне, быў вялікі курс на развіццё мясцовага рамяства, на выкрыццё і выкарыстоўванне мясцовых рэзерваў.

У выніку гэтага, на Беласточчыне шмат палепшала забеспячэнне насельніцтва, між іншым, ў будаўнічыя матэрыялы. Толькі ў адным Семятыцкім павеце ў мінулым годзе арганізавана 12 кафлярняў і 10 цагельняў. Дзякуючы ім, штораз больш сялян поўнасцю забяспечваецца ў так патрэбныя будаўнічыя матэрыялы. Напрыклад у цагельні Здзіслава Яблонскага з пасёлка Нурэц у мінулым годзе выпалена 75 тысяч добраякаснай цэглы. Яна карысталася вялікім попытам сярод сялян.

Дагэтуляшні ход працы семятыцкіх кафлярняў і цагельняў дае гарантыю, што ў гэтым павеце кафляў і цэглы будзе ўдосталь. (вб)

## Расце прамысловасць Беларусі



*Галоўны канвеер Мінскага трактарнага завода.*

*Прамысловая вытворчасць БССР ў 1957 г. вырасла ў параўнанні да 1956 г. на 15 прац., т. е. больш чым у сярэднім ва ўсім СССР. Асабліва значна павялічылася машынабудаўнічая прамысловасць. Напрыклад выпуск металарэжучых станкоў — на 33 прац., трактараў «Беларусь» — на 19 прац., сіласаўборачных камбайнаў — на 50 прац., падшыпнікаў — на 71 прац.*

*Прадукцыя тэлевізараў узрасла ў 2,4 разы.*

*Мінскі аўтазавод выпускае 40-тонавыя аўтамабілі - самазвалы.*

*У 1958 годзе наступіць далейшы рост беларускай прамысловасці. Інвестыцыі (будаўніцтва новых заводаў) будуць у гэтым годзе на 23 прац. большыя, чым у мінулым годзе. Далейшае развіццё прамысловасці будзе ісці перш-на-перш у напрамку павялічэння паліва — энергетычнай базы, вытворчасці будаўнічых матэрыялаў і харчовай прамысловасці, для якой сыравіну дае сельская гаспадарка — раслінаводства і жывёлагадоўля.*

*Да буйных інвестыцый належаць між іншым: нафтаперапрацоўчы завод, газаправод Мінск — Дашава, Бярозаўская ГРЭС (электрастанцыя), Мінскі завод аўтаматычных станкоў. У далейшым узрасце ўдзел беларускай індустрыі ў прамысловай вытворчасці цэлага СССР. Варта падкрэсліць, што ў 1958 г. Беларусь дасць аж 11,3 прац. усіх металарэжучых станкоў, прадукаваных у СССР.*

*У цякучым годзе будуць асвоены (упершыню прадукаваны) новыя вырабы. У прыватнасці ў Полацку пачнецца прадукаваць ткані са шкла.*

*Як вядома, больш поўгода таму, у СССР, праведзена рэарганізацыю сістэмы кіравання народнай гаспадаркай у выніку чаго былі ўтвораны Советы Народнай Гаспадаркі. Беларусь становіць адзін асобы СНГ. Цяпер асобныя беларускія заводы падпарадкаваны не розным міністэрствам у Маскве і Мінску, але толькі СНГ у Мінску (выключаючы дробную т. зв. мясцовую прамысловасць, якой кіруюць мясцовыя советы — адпаведнікі нашых народовых рад.*

*Такія абставіны ствараюць больш спрыяльныя ўмовы для эканамічнай (ашчаднай) працы заводаў. Між іншым гэта дазваляе хутчэй правесці спецыялізацыю асобных заводаў і фабрык у прадукцыі агранічанага асартымента вырабаў, што значна павышае прадукцыйнасць працы і павялічвае прадукцыю.*

*Мерапрыемствы СНГ Беларусі ідуць у гэтым напрамку. Таксама наладжваюцца ў гэтых умовах новыя, больш апраўданыя эканамічна, сувязі паміж прадпрыемствамі рэспублікі, і паміж Беларуссю і іншымі рэспублікамі СССР. Гэта павінна перш за ўсё паменшыць далёкасць транспарту, ліквідаваць лішнія, шкодныя, сустрэчныя перавозкі тых самых вырабаў.*

*Асноўныя даныя ўзятыя з артыкула А. Золава (Прамыслова - эканамічная Газета) № 10/1958 г).*

*А. Л.*

Расказваюць старыя падпольшчыкі

АЛЯКСАНДР ГРЭСЬ

## Успаміны

(Запіс А. Амільяновіча)

Мая родная вёска — гэта Залукі, у Беластоцкім павеце. Рана засталіся мы без бацькі, і толькі маці, адрабляючы рукі, гадавала нас, трое дзяцей. Падчас I сусветнай вайны, мы, як дзесяткі іншых людзей, пакінулі Залукі і разам з усімі бежанцамі апынуліся аж у Смаленскай губерні, дзе памясціліся ў невялічкай мясціне.

Прышла рэвалюцыя. Людзі заварушыліся. У той час мы пераехалі на Урал, у аколіцы Свярдлоўска. Маці працавала грузчыцай на чыгуначнай станцыі. Я — хадзіў у школу.

Праз аколіцу нашу прайшоў фронт з Каўчаком.

Бадай што ў 1920 г. насельніцтва мястэчка і аколіцы ахінула масавая эпідэмія тыфу. У той час памерла мая маці. Засталося нас трое, асіроцелых дзяцей, далёка ад роднай старонкі, між чужых людзей. Туга за роднай вёскай не адступала ні на крок.

У 1922 г. разам з іншымі бежанцамі - аднавяскоўцамі, вярнуліся мы ў Залукі. На месцы, дзе стаяла вёска, засталіся руіны і папялішчы. Не было дзе жыць і за што рук зачапіць. Адно толькі засталося — пайсці на службу. Ды ці-ж знойдзецца на вёсцы горшы лёс ад лёсу пастуха-парабка? Хіба не. Цяжка прыходзілася працаваць, да таго яшчэ дапамагаў будавацца дзядзьку Шчэрбіку. Калі дзядзька пабудаваў хату — я пакінуў службу пастуха і стаў працаваць парабкам на гаспадарцы дзядзькі. Адзінай асалодай майго жыцця былі кніжкі. Яны мне займалі ўвесь вольны час.

У 1925 годзе я пазнаёміўся з Язэпам Грэсям з Пясчанік, ад якога давялося мне атрымоўваць беларускую газету, што выдавалася ў Вільні.

Не памятаю, як яна называлася, за тое-ж памятаю, што пісала аб блізкіх і дарагіх мне беларускіх справах. Я прачытваў яе па некалькі разоў ад пачатку да канца. Вельмі любіў гутарыць з Язэпам Грэсям — яго размовы былі мне настолькі цікавыя, што я стаў яшчэ больш чытаць, а ў думках узнікалі нейкія ўяўленні. Ад яго я й даведаўся аб «Грамадзе» і яе дзейнасці. Беларуская газета і размовы з Грэсям зрабілі вялікі ўплыў на мяне. Я зразумеў нацыянальныя справы, прыгнёт, і сацыяльную несправядлівасць, адкрываліся вочы на нядолю нашага народа. Як толькі сабраліся ў хаце дзядзькі суседзі — я даставаў газеты і ўголас чытаў больш цікавыя артыкулы. Сяляне даволі цікава разважалі некаторыя справы. Неўзабаве штораз больш людзей сходзілася, штораз шырэй гаварылася аб культуры, асвеце, аб сацыяльнай і нацыянальнай несправядлівасці.

У той час у Пяшчаніках і Гарадку дзейнічалі ўжо гурткі «Грамады». Вырашыў я і ў сваёй вёсцы арганізаваць гэткі гурток.

Аднойчы вечарам у хаце дзядзькі сабралося шмат насельніцтва. Прачытаўшы статут, я расказаў аб заданнях, мэтах і імкненнях «Грамады», патрэбе развіцця асветы і культуры ў роднай мове. У той вечар, у вёсцы Залукі ўтворана гурток «Грамады». Першымі ўступілі — Уладзімір Паплаўскі, Мікола Хрэноўскі, Антон Мудрык і Кастусь Маліноўскі — маладыя, энергічныя людзі, якія жыва ўсім цікавіліся.

Дзверы школы былі зачыненыя перад намі і мы вырашылі вучыцца самі. І хоць днямі кожны дастаткова напрацаваўся, то аднак вечарамі збіраліся разам чыталі газеты, мастацкую і навуковую літаратуру, а самае важнае тое, што перад кожным стаяла заданне пашыраць асвету ў сваім асяроддзі. У той час я выбраўся ад дзядзькі і перайшоў жыць з сястрою ў невялічкую старую, апушчаную хатку, што стаяла край вёскі. Дзядзька Шчэрбік адправіў мяне на наваселле з бохнам чорнага хлеба.

Я стаў хадзіць у лес — на працу. Кавалак чорнага хлеба і бутэлька чыстай халоднай вады — гэта была мая ежа на працягу некалькіх першых тыдняў. Сябры з «Грамады», што працавалі разам, дзяліліся са мною, хто чым мог, я за гэта падчас адпачынку чытаў ім газеты і кніжкі.

Настала восень і зіма 1926 года. Наш гурток збіраўся кожны вечар. На адным са сходаў мы арганізавалі самадзейны калектыў, які адразу распачаў апрацоўваць п'есу «Птушка шчасця». Незадоўга п'есу гэтую з вялікім поспехам пастаўлена ў Залуках. Затым сталі падрыхтоўваць шырэйшую праграму. Штораз часцей наладжваліся вечары, на якіх удзельнікі калектыву выступалі з багатай праграмай песень і вершаў; штораз больш людзей хілілася да нас. Наш гурток сістэматычна працаваў.

Аднойчы сядзелі мы ў полі з Язэпам Грэсям. Ён расказваў мне аб пролетарыяце, аб буржуазіі і аб пастаяннай барацьбе народа за вызваленне. Тады ўпершыню я пачуў аб партыі, аб КПЗБ, як яна, супольна з польскім пролетарыятам змагаецца за вызваленне з-пад капіталістычнага прыгнёту. Што чуў, я праглынаў усёй сваёй душою.. І я ўступіў у члены партыі... Грэсь паставіў мне задачу — арганізаваць людзей і ўтварыць ячэйку КПЗБ.

Вярнуўшыся ў Залукі, я паразмаўляў з самымі блізкімі мне таварышамі з «Грамады», расказаў ім аб існаванні КПЗБ, аб яе мэтах і заданнях. Нашая партыйная ячэйка налічвала 6 асоб. Мяне выбралі сакратаром ячэйкі. Язэп Грэсь прыносіў

(Праця̆г на стар. 6)

